Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопіс.

**Цана** асобнага нумару **20 гр.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсанта ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 21 Ліпня 1930 г. №. 22

Рэдакцыя наше газэты атрымала ад Куратарыюма Віленскага Школьнага Вокругу просьбу аб надрукаваньні наступнага камунікату:

„Міністэрства веравызнаньняў і публічнае асьветы з пачатку 1930/31 школьнага году адчыняе Дзяржаўную Вучыцельскую Сэмінарыю імя Францішка Багушэвіча.

У сэмінарыю будуць прыймацца кандыдаты абодвух полаў, якія скончылі 7-ёх клясовую пачатковую школу. Пры Сэмінарыі будзе адчынены інтэрнат.

Навучаньне будзе адбывацца ў польскай і беларускай мовах.

Просьбы аб дапушчэньні да ўступных экзаменаў трэба падаваць у куратарыюм Віленскага Школьнага Вокругу да 1-ага верасьня 1930 г.“.

## Як-жа запраўды будзе выглядаць „Новая Эра“?

На другім месцы нашае газэты падаем прысланы нам камунікат аб адчыненьні ў Вільні ад 1 верасьня г. г. вучыцельскай сэмінарыі імя Фр. Багушэвіча.

Незразумела, але даволі хітра ўложана абвестка аб сэмінарыі. Якая гэта мае быць сэмінарыя—„ня сказана“! Ці яна будзе беларуская, ці польская, ці ўтраквістычная (дзьвёхмоўная)? „Дзеньнік Віленскі“ б'е трывогу, што адчыняецца беларуская сэмінарыя, але адкуль ён даведаўся аб гэтым—не гавора, а з камунікату гэтага ня відаць.

Можа адно толькі імя беларускага пісьменьніка змусіла ашалелых эндэкаў забіць такую трывогу? Можа — але праўды аб гэтай сэмінарыі мы так-такі дасюль і ня ведаем, а гэта нас ня толькі цікавіць, але й баліць. Бо-ж столькі гаварылася аб беларускай сэмінарыі, столькі было патрачана энэргіі беларускім грамадзянствам усіх палітычных кірункаў, урэшце столькі было гутаркі, калі Сойм унёс у дзяржаўны бюджэт у пяршыню за 10 год істнаваньня незалежнае Польшчы аж 150 тысяч злотых на *беларускую*, зусім выразна, не якую небудзь іншую, а толькі *беларускую* настаўніцкую сэмінарыю ў Вільні, што хацелася-б урэшце ведаць праўду аб гэтай сэмінарыі—тым балей, што ўжо час складаць заявы аб прыйме ў сэмінарыю.

Тут аднак нешта, думаецца нам, ня зусім чыста, бо-ж у камунікаце гаворыцца аб тым, што „навука будзе папольску й пабеларуску“. Як гэта разумець? Праўда, у кожнай, на'т прыватнай, чыста беларускай школе польская мова, гісторыя і геаграфія Польшчы выкладаюцца папольску, але-ж ад гэтага беларускі яе характар не мяняецца.

Ці аднак гэта думала Куратарыюм, падаючы такую абвестку? Калі гэта так, дык усё ў парадку — беларусы будуць ведаць, што, пасьля даўгіх гадоў іх чаканьня, жаданьні іх і зусім законныя дамаганьні споўнены і споўнены якраз сёньняшнім урадам *шчыра і чэсна*; калі-ж і тут крыецца мана, крыецца нейкая крутаніна, дык шкада на'т захадаў — бо гэта павядзе *не да стабілізацыі польска-беларускіх адносін, а, наадварот, да яшчэ большага завастрэньня, да поўнага*, скажу шчыра, недаверыя да ўсяго, што запачаткована польскім урадам.

Калі апошнімі часамі, дзякуючы пэўным чэсным крокам з боку дзяржаўнае ўлады да некалькіх беларускіх сярэдніх школаў, у беларусоў паўстала надзея на магчымасьць супольнага згоднага сужыцьця гэтых двох братніх народаў, дык такія недарэчныя ды бламутныя крокі з вучыцельскай сэмінарыяй бязумоўна давялі-б да неаблічальна—сумных рэзультатаў.

Праўда, у беларускай сэмінарыі нельга было-б цалком правясьці тую практыку, у справе выкладовае мовы, якую маюць сярэдьнія школы, бо зацьверджаны плян школьных гадзін у сэмінарыі гэтаму стаіць на перашкодзе. Тут, зразумела справа йдзе выключна аб гісторыі і геаграфіі Польшчы, бо-ж польская мова не вымагае ніякага выясьненьня. Гісторыі ў сярэдняй школе прыпадае па 4 тыдн. гадз. у кожнай клясе, пачынаючы ад 5-ае і дзеля гэтага зусім лёгка палзяліць—2 гадзіны на гісторыю агульную пабеларуску і 2 гадзіны на гісторыю Польшчы папольску, у 4-ай-жа клясе старадаўняя гісторыя ўсюды дагэтуль выкладалася выключна пабеларуску—і мела толькі 3 тыдн. гадзіны. Геграф'я Польшчы ў гімназіі выкладаецца папольску толькі ў 4-ай і 8 ай клясах.

У сэмінарыі такога падзелу, з пункту гледжаньня пэдагогічнага, зрабіць нельга, дзякуючы абмежанасьці тыднёвых гадзін, да 2—3-х. Падзел па 1-эй тыднёвай гадзіне з пункту гледжаньня пэдагогічнага ня вытрымлівае крытыкі і ў школе не павінен мець месца. Але затое праграма сэмінарыяў павінна быць згодна з тым, што сказана вышэй, каб той прадмет, які чым-небудзь з'яўляецца зьвязаным з Польшчай выкладаць цалком папольску, той жа—які нічога супольнага з Польшчаю ня мае, выкладаць цалком пабеларуску.

Прыняўшы гэны, зусім натуральны, чэсны і пэдагогічны прынцып у беларускай вучыцельскай сэмінарыі могуць і павінны выкладацца ў *польскай мове* наступныя прадметы: польская мова—па ўсіх курсах, гісторыя—на 3, 4 і 5 курсах і геаграфія толькі на 3 і 5 курсах; часьць пэдагогікі і мэтодыка на 4 і 5 курсах, датычачая полёністыкі, геаграфіі і гісторыі Польшчы ў пачатковай школе.

Усе іншыя прадметы па ўсіх курсах павінны выкладацца *выключна* ў *беларускай* мове.

Гэтага вымагае пэдагогіка, гэтага вымагае і ўсякая чэсная палітыка.

Ці пойдзе польскі ўрад па гэтаму адзінаму і чэснаму шляху, распачаўшы запраўдную „Новую Эру“ ў польска-беларускіх адносінах, пакажа нам недалёкая будучыня. — 1-га верасьня 1930 году не за гарамі.

(—) **Копны.**

## Сьмяротная барацьба „вольнага труду“ з „працай нявольнікаў“ на сусьветным рынку.

**(Цікаўны канфлікт між Радамі і Амэрыкай).**

Як ведама, амэрыканскі ўрад, а перадусім асабіста прэзыдэнт Гувэр, катэгарычна адмаўляюць прызнаць радавы ўрад законным урадам краю. Але, ня гледзячы на гэта, Амэрыка афіцыяльна не стаўляла перашкодаў сваім купцом фабрыкантам і банкам вясьці гандлёвыя справы з радавым урадам.

І гандаль гэты дасягнуў вялікіх разьмераў, ня гледзячы на тое, што амэрыканскі ўрад, як і большасьць прыватных банкаў адмаўлялі гарантаваць крэдыты краёвых экспортэраў радаваму ўраду. Радавы ўрад наагул прыдае вялікую вагу эканамічным зносінам з багатай Амэрыкай, на якую вельмі разлічае пры гаспадарчай адбудове свайго зруйнаванага краю. З свайго боку амэрыканскім фабрыкантам было вельмі выгадна таргаваць з Радамі.

Але ў апошнія часы радавы ўрад, патрабуючы нагвалт заграпічнай валюты для разрахункаў з замежнымі фірмамі, сам пачаў масавы вываз розных тавараў. Пры гэтым прадаваў іх па такіх нізкіх цэнах, што сваёй канкурэнцыяй забіваў прамысловасьць тых краінаў, куды вывозіў тавары.

Так, ведама добра ўсім нам, што сваім танным лесам ды і льном Внешторг амаль не забіў цалком льняную і лясную прамысловасьць Польшчы, выцясьніўшы яе вырабы ня толькі з замежных рынкаў, але нават і з польскага!..

Гэты „бросовы экспорт“, па ангійскі „дэмпінг“, радавага ўраду мае мэтай ня толькі заваяваць новыя рынкі, забіўшы канкурэнтаў, але і паказаць вялікія пасьпехі радавай гаспапаркі, слаўнай радавай „пяцілеткі“. Лес, лён, вугаль, мэталі, розныя фабрыкаты, нават хлеб, масава вывозяцца радавым ўрадам і прадаюцца па такіх цэнах, якія на заходзе блізу напалову ніжэй сабе вартасьці прадукцыі гэтых тавараў.

Дзіва, што кіданьне масаў такіх танных тавараў на замежныя рынкі—з аднаго боку выгадна насяленьню гэтых краёў, а з другога боку — забівае прадукцыю тых краёх, руйнуючы фабрыкантаў і павялічваючы там безрабоцьце. Такім чынам, бальшавіцкі Внешторг забівае адразу некалькіх зайцаў: ён ня толькі здабывае сваму ўраду патрэбную яму валюту, але дапамагае і комінтэрну, павялічваючы безрабоцьце, а з ім гаспадарчы крызіс і сацыяльныя канфлікты ў буржуазных краёх.

Таму цэлы рад саюзаў прамыслоўцаў на заходзе, якія сьпярша былі гарачымі прыхільнікамі гандлю з Радамі, заявілі ўжо вострыя пратэсты проці такога „нячуванага ў гісторыі, нясумленнага гандлю“, трэбуючы ад сваіх урадаў фармальнай забароны ўвозу ўсіх радавых тавараў.

Але пачалі пратэставаць ня толькі прамыслоўцы-працадаўцы, але і самі работнікі, якіх такая канкурэнцыя іх „сацыяльнай бацькаўшчыны“ радавай прадукцыі масава пазбаўляе працы, або паніжае заработную плату. Так „Камітэт Абароны Заработнай Платы“ пры „Гэнэральнай Фэдэрацыі Працы“ ў Нью-Іорку, агульна работніцкая профэсыянальная арганізацыя ў Амэрыцы, распачаў вострую кампанію проці дапушчэньня радавых тавараў у Амэрыку... Віцэ-старшыня гэтай арганізацыі, Мэтью Уолл заявіў, што кампанія гэтая падтрымліваецца ўсім арганізаваным пралетарыятам Амэрыкі. Матывы, якія далей высунуў ён, асабліва цікаўны, бо выклікалі ня толькі бурны водгук у амэрыканскай прэсе, але і спробу рашучага ўмяшаньня ў справу з боку амэрыканскага ўраду.

П. Мэтью Уолл заявіў: „уся радавая эканамічная сыстэма аснавана на прымусовай працы. Дапускаць прадукты такое паднявольнае працы ў край, дзе праца свабодная, гэта значыла-б падважаць самыя падставы цывілізацыі, змушаючы гаспадарчую вытворчасьць да паваротu к тым часам, калі існаваў труд нявольніцкі — рабства... Радавы ўрад ня мае капіталаў. Заграпічныя фінансавыя колы не хочуць давяраць сваіх капіталаў бальшавікам. Таму радавы ўрад змушаны — для правядзеньня сваёй „пяцілеткі“—эканоміць на заработнай плаце (дакладаць галавой работнікаў, як проста кажам мы). Амэрыканскія работнікі — далей кажа ён — толькі што дабіліся закону, які забараняе ўвоз у край тавараў, якія выраблены прымусовым трудом. Гэты закон якраз і меў на мэце радавую Расею, краіну рабоў, якая зьяўляецца пагрозай для свабоднай працы работнікаў усяго сьвету“...

Цікаўная ілюстрацыя да лёзунгу СССР: „пралетары ўсіх краёў злучайцеся“—ня праўда-ж?

Кампанія, распачатая праф. саюзам амэрыканскіх работнікаў, усхвалявала ўсю грамадзкую апінію краю. Характэрны выпадак яшчэ больш завастрыў яе абурэньне. Газэты падалі, што на адным бервяне з партыі прыбыўшага з Архангельску лесу партовыя агэнты знайшлі надпіс, зроблены нейкім змабілізаваным на прымусовую працу для нагрузкі лесу „буржуем“, ці вастрожнікам. Гэты вастрожнік у вельмі сільных словах апісаў, у якіх варунках працуюць такія, як ён нявольнікі над экспортам слаўнага і таннага радавага лесу. Справай заняліся сьледчыя ўлады. Як пішуць газэты, сьцверджана (?), што ўся партыя лесу выраблена і нагружана палітычнымі арыштантамі, якія працуюць па 16 гадзінаў у дзень.

Пачалася стрэшэнная кампанія, ды ня толькі ў Амэрыцы, але і ў Англіі, Францыі, Скандынаў-

